



# Рэгіянальная газета

6 верасня 2013 года
№ 36 (958)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.




## навіны рэгёна

### Адкрылася выстава самадзейнага мастака

**СМАРГОНЬ.** Ад 4 верасня ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі працуе экспазіцыя мастака **Анатоля Хараўца**. Яна будзе доўжыцца да канца верасня. Сярод 27 прац пераважная большасць – пейзажы. Як распавёў галоўны захавальнік музея **Павел Картавік**, нарадзіўся Анатоль Харавец на Ашмяншчыне. Пасля школы паступіў у Віленскае мастацкае вучылішча. Давучыцца не атрымалася, бо забралі ў армію. Цяпер ён працуе слесарам-інструментальшчыкам. На Смаргоншчыне жыве ўжо каля 20 гадоў. Першую карціну Анатоль Харавец намаляваў яшчэ ў 1974 годзе. Але яна не захавалася. Персанальная выстава ўжо трэцяя для мастака. Першая адбылася ў 2007 годзе, другая – у 2011 годзе.

### Дні адчыненых дзвярэй і выстава

**ВІЛЕЙКА.** Да 8 верасня ў Вілейскім раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі праходзяць Дні адчыненых дзвярэй. Ахвотныя могуць азнаёміцца з дзейнасцю цэнтра, наведаць выставы, прэзентацыі, майстар-класы, канцэрты, запісацца ў аб'яднанні па інтарэсах. Самая насычаная праграма чакае 7 верасня. Будуць працаваць творчыя пляцоўкі, адбудуцца паказальныя выступленні навучэнцаў гуртку “Авіямадэліраванне” і “Ракетамадэліраванне”, спектакль дзіцячага тэатра лялек “Сюрпрыз”, дзіцячая дыскатэка. На пляцоўцы перад Цэнтрам будзе наладжаная відэаэкскурсія па ўстанове. Да 8 верасня ў выставачнай зале імя Сілівановіча доўжыцца выстава “Вясёлка цудаў”. Як распавяла намеснік дырэктара цэнтра **Наталля Рыжэвіч**, на ёй прадстаўлены творчыя працы навучэнцаў і педагогаў Цэнтра, мадэлі самалётаў, аўтатэхнікі, ракет.

### Скралі цялят на 5 мільёнаў

**ВАЛОЖЫН.** 29 жніўня з малочна-таварнай фермы ў вёсцы Кабыльчыцы Гародзькаўскага сельсавета скралі трох цялят. Пра гэта паведаміла кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства “Падбярэззе”, якому і належыць ферма, – расказвае намеснік начальніка Валожынскага райаддзела ўнутраных спраў **Віталь Мінкевіч**. Шкода, нанесеная прадпрыемству, склала больш за 5 мільёнаў рублёў. Цяпер вядзецца пошук тых, хто можа мець дачыненне да здарэння.

**Аддзел інфармацыі.**



# Кожнае слова мае вагу




Калаж Насты РОЎБЫ

На публікацыю чытача “РГ” адказаў Вілейскі доследны лягсас. І ў чытача, і ў кіраўніцтва лягсаса сваё меркаванне наконт вырубкі лесу каля Новай Гуты.

**У нумары 32 ад 9 жніўня 2013 года “Рэгіянальная газета” надрукавала меркаванне свайго чытача Алеся Раткевіча пад назвай “Варварская высечка лесу”.**

Аўтар артыкула абвінавачвае каго толькі можна за бескантрольнасць, за “бязглуздае знішчэнне лесу і варварскія адносіны да прыроды “прамыслоўцаў”, у якіх толькі адна мэта – “прага нажывы людзей, у якіх толькі адна мэта – грошы, грошы і грошы”.

Лічым неабходным выказаць сваю пазіцыю ў адносінах да артыкула, які можа ўвесці чытачоў газеты і жыхароў вёскі Сакалоўка і прылеглых вёсак у зман.

Дык вось, паважаны “праўдашукальнік” Алесь Раткевіч, на вашае пытанне ў артыкуле “ці існуе ў нашай краіне хоць якая-небудзь распрацаваная тэхналогія па лесанарыхтоўцы”, даём зразумелы адказ. Усе высечкі ў лягсасе і, у прыватнасці, у раёне вёсак Малявічы-Сакалоўка-Новая Гута праводзяцца на аснове лесаўпарадкавальнага праекта, які выдаецца лягсасу на дзесяць гадоў. У ім пазначаецца, калі, дзе і колькі патрэбна высечы лесу.

Праект распрацоўвае лесаўпарадкавальнае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства “Белдзяржлес”. Апошняе лесаўпарадкаванне ў лягсасе адбылося ў 2010 годзе. У кварталах каля вёсак Малявічы, Новая Гута нарыхтаваная драўніна (а гэта пераважна асіна, бяроза, алешына) не найвышэйшага гатунку, ёсць гніль.

Лесанарыхтоўшчыкі, якія набылі дзялянкі праз Беларускую ўніверсальную гандлёвую біржу, імкнуцца своечасова высечы і вывезці лес адпаведна з існуючым узростам высечкі галоўнага карыстання для кожнай пароды (узрост высечкі асіны – 41 год, бярозы – 61, хвоі і елкі – 81 год). Калі надыходзіць узрост рубкі, участак падлягае суцэльнай высечцы.

Лясны ўчастак, які ўзгадвае аўтар артыкула, у асноўным забалочаны, са зніжанымі глебава-тапалагічнымі ўмовамі, што замаруджвае нарыхтоўку і вываз. У некаторых кварталах можна праводзіць лесанарыхтоўчыя работы толькі зімой. У квартале 159 (атрыманая драўніна, размешчаная на фота у папярэднім нумары газеты) высечкі галоўнага карыстання ажыццяўляліся прадпрыемствам “Кронаспан” згодна з выпісаным лесабілетам і тэхналагічнай картай.

Дарэчы, на вашае пытанне, паважаны Алесь Раткевіч, “дзе наша ахова прыродных рэсурсаў, чаму кантралюючыя арганізацыі не заўважаюць і не бачаць у гэтым праяву злачынства”, даём адказ. Выкананыя работы кантралююцца службамі лягсаса, інспекцыяй па ахове навакольнага асяроддзя, інспекцыяй аховы раслінная і жывёльнага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, пра што складаюцца адпаведныя акты агляду. Нагадваем, што пасля высечкі лесу на вызваленых пляцоўках будуць зноў пасаджаныя лясныя культуры або ўчасткі пакінуць пад далейшае натуральнае зарастанне.

Штогод высечка галоўнага карыстання ў лягсасе ажыццяўляецца на плошчы каля 530 гектараў з наступнымі лесааднаўленчымі мерапрыемствамі. Аўтар не ўзгадаў у артыкуле, магчыма, знарок, што ў 2010 годзе менавіта ў гэтым рэгіёне з-за моцных шквалістых вятроў былі пашкоджаныя насаджэнні на плошчы каля 60 гектараў, дзе правялі суцэльныя санітарныя высечкі, хаця ведаў пра гэта. Да распрацоўкі гэтых буралому былі прыцягнуты ўсе сілы лягсаса, а таксама іншыя лесанарыхтоўшчыкі для своечасовай уборкі пашкоджаных насаджэнняў. Вельмі многа працы было ўкладзена ў аднаўленне наступстваў стыхіі.

**Працяг на 2-й старонцы.**

СВЯТЫ

# Сямікласнік арганізаваў лінейку з ДАІ




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Фотаздымак на памяць з дзяржаўтаінспектарам Сяргеем Бартошам.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Школьнікі маглі праехаць паласу перашкодаў на ровары.

**МАЛАДЗЕЧНА. Незвычайная лінейка адбылася ў маладзечанскай школе №8 у пятніцу, 30 жніўня.**

Вучань 7 "В" класа **Паша Адамушка** гэтым летам паказаў цудоўныя веды правілаў дарожнага руху на адпаведным конкурсе ў летніку "Зубраня". І калі яму ўручалі прыз, запрасіў дзяржаўтаінспектараў прыехаць у ягоную школу, каб аднакласнікі таксама больш даведаліся пра бяспеку на дарозе.

На лінейцы гэтую гісторыю распавёў **Міхаіл Акуліч,** намеснік начальніка Упраўлення ДАІ Мінскай вобласці, падпалкоўнік міліцыі. Ён адзначыў, што яго калегі вырашылі не адкладаць візіт надоўга і прыехалі на ўрачыстую лінейку.

Вучні ахвотна прымяралі спецыяльныя прылады, адказвалі на пытанні вікторыны. Можна было паспрабаваць праехаць праз перашкоды на роварах, а таксама пасядзець у міліцэйскай машыне.

Школьнікі ў размове з карэспандэнтам "РГ" ацанілі лінейку як "самую крутую".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота і відэа з лінейкі глядзіце на сайце**




ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Кожнае слова мае вагу

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

**У нумары 32 ад 9 жніўня 2013 года "Рэгіянальная газета" надрукавала меркаванне свайго чытача Алеся Раткевіча пад назвай "Варварская высечка лесу".**

Хочацца параўнаць работу лесавода і работнікаў сельскай гаспадаркі. Гэта вельмі цяжкая руплівая праца вясной, летам, восенню, зімой. Толькі аграрыі бачаць вынікі сваёй працы штогод праз некалькі месяцаў. А вось лесаводы – праз дзесяцігоддзі. Колькі трэба мець цярплівасці, адказнасці, ведаў і любові, каб дачакацца чаканых вынікаў!

Не ўсё так проста, як падаецца часам староннім назіральнікам, якія, не паглыбляючыся ў праблемы, у сутнасць працы іншых людзей, штучна ствараюць праблемы, якіх не існуе. Няўжо аўтар артыкула думае, што толькі ён адзін клапоціцца пра дзяржаву, прыродныя рэсурсы, пра людзей. Нібыта не існуе ніякай выканаўчай улады, кантралюючых органаў. А навокал усе толькі глумяцца над прыродай, займаюцца вандалізмам і думаюць пра ўзбагачэнне.

Свабода слова нам дадзеная не для абразы людзей, якія шчыра выконваюць свой абавязак. Свабода слова прадугледжвае найперш патрабаванні да самога сябе: хто я, да чаго імкнуся, што ў мяне за душой, што я нясу людзям і раблю, каб палепшыць іх жыццё на справе, а не на словах, захаваць супакой людзей, а не бударажыць іх. Трэба быць уважлівым да іншых, стрыманым і разумець, што кожнае слова мае вагу. Для гэтага варта ўзбагачаць сваю душу. Шмат працы неабходна кожнаму, каб пабудаваць храм душы. Для гэтага неабходна набрацца цярплівасці, каб мірыцца са сваёй недасканаласцю.

Гісторыя ведае такіх дзеячоў, якія, прыкрываючыся жаданнем дапамагчы людзям, рабілі ўсё, ды і робяць, каб апаганіць уладу, дзяржаўныя органы і дамагчыся асабістай выгады.

Не варта, паважаны Алесь Раткевіч, ціснуць на пачуцці людзей, робячы з сябе патрыёта. З абуранасцю чытаюцца вашыя радкі: "... без малога сораму і сумлення цягаюць лес прама праз мемарыял "Боркі", на якім пахаваныя ахвяры мінулай вайны. Ездзяць яны прама праз падмуркі былых хат, спаленых фашыстамі. Як ім не даходзіць, што гэта яны не падмуркі рэжуць коламі, а душы нявінна загінулых людзей! І нават не задумваюцца, што здзяйсняюць не толькі кашчунства і вандалізм, а нешта большае, за што ім усё адно прыйдзецца разлічвацца". Вось так, папрактыкаваўся ў красамоўнасці, націснуў на пачуцці людзей. Між тым кожны мясцовы жыхар ведае, што гэта адзіная яшчэ даваенная дарога, што вядзе праз Боркі. Іншага пад'езду тут няма. Помнік жа спаленым жыхарам вёскі Боркі знаходзіцца ў 70-ці метрах ад гэтай дарогі. Штогод дарогу да мемарыялу падсыпаюць і рамантуюць. У 2011 годзе сіламі мясцовай выканаўчай улады быў зроблены новы гравійны пад'езд да мемарыялу, добраўпарадкаваная тэрыторыя каля помніка з удзелам розных арганізацый раёна, мясцовага насельніцтва, у тым ліку, работнікаў лясгаса.

Дарэчы, у краіне здзяйсняецца праграма па стварэнні лесанарыхтоўчай магутнай тэхнікі, якая прыйдзе на замену людзям, ручной працы.

Мяркуем, што нашае меркаванне наконт абражальнага артыкула Алеся Раткевіча пачуюць многія і даведаюцца, дзе праўда, а дзе хлусня.

Хочацца, каб усе мы зберагалі душы іншых людзей і не перашкаджалі працаваць.

**Адміністрацыя Вілейскага доследнага лясгаса.**

**Сёння мы надрукавалі адказ кіраўніцтва лясгаса на публікацыю нашага чытача Алеся Раткевіча "Варварская высечка лесу" у № 32. Разумеючы, што ў лісце лясгаса выказваецца пазіцыя другога боку ў спрэчнай сітуацыі, па просьбе аўтараў допісу даём яго без змяненняў. Заўважым толькі, і пра гэта "РГ" пісала не аднойчы, што менавіта Алесь Раткевіч звяртаў увагу на адсутнасць дарогі да Боркаў, арганізоўваў суботнікі па добраўпарадкаванні мемарыялу ў вёсцы, якую спалілі разам з людзьмі.**

**"Рэгіянальная газета".**

ВЫСТАВЫ

# Вілейка дорыць Мінску маляваны рай

**ВІЛЕЙКА. "З Вілейкі – з любоўю" – пад такой назвай гарадская мастацкая галерэя Леаніда Шчамялёва ў Мінску правядзе выставу твораў беларускіх народных майстроў наіўнага, прымітыўнага мастацтва са збораў Вілейскага краязнаўчага музея.**

Маляваныя дываны, маляванкі на шкле, размаляваныя макаткі (карцінкі) і іншыя атрыбуты вясковага побыту першай паловы 20 стагоддзя складуць арыгінальную і жывую экспазіцыю, якая пройдзе пад дэвізам "Рэгіёны – сталіцы".

Традыцыя стварэння маляваных дываноў і малюнкаў на шкле амаль поўнасцю згасла напрыканцы 50-х гадоў 20 стагоддзя, уступаючы прамысловай вытворчасці прадметаў упрыгажэння дома. Аднак у свой час іх высока цанілі. Гэта былі не толькі прадметы раскошы для вясковых жыхароў, але і своеасаблівыя сямейныя абярэгі, сімвалы гармоніі, дастатку, згоды і дабрабыту ў доме і ў цэлым свеце.

Адкрыццё выставы адбудзецца а 18 гадзіне 14 верасня і стане своеасаблівым падарункам мінчанам і гасцям беларускай сталіцы да Дня горада.

**Вілейскі краязнаўчы музей.**



Фота забяспечана Вілейскім краязнаўчым музеем.

Адзін з экспанатаў выставы.

## Папраўка

У мінулым нумары "Рэгіянальнай газеты" дапушчана недакладнасць у артыкуле "Беларускамоўны гарадскі 1-ы клас – толькі ў Ашмянах".

Рэарганізуецца не Вязненскі вучэбна-педагагічны комплекс, а Язненскі.

Просім прабачэння ў чытачоў.

НАМ ПІШУЦЬ



# Чаму так многа смецця?

## Чытач “РГ” запрашае да дыскусіі




Думаецца, што вось гэтай працы ёсць магчымасць пазбегнуць.




Чаму, едучы з адпачынку, мы пакідаем смецце на аўтобусных прыпынках каля дэкаратыўных сметніц, і для чаго яны там стаяць.

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму мы выкідваем смецце каля сметніцы, калі тая поўная?**

Чаму пляцоўкі вакол сметніц завальваем старымі дзвярыма і вокнамі, мэбляй і лядоўнямі, адпрацаванымі аўтаколамі і кузаўнымі дэталямі, галлём і нават цэлымі дрэвамі? Чаму, едучы з адпачынку, смецце пакідаем на аўтобусных прыпынках каля дэкаратыўных сметніц, а не вязём яго дахаты, як раяць адказныя асобы?

І наогул, на ваш погляд, на якім узроўні знаходзіцца наш прыдарожны сервіс?

Звяртаюся да чытачоў і прапаноўваю сумесна паразважаць і выказаць свае думкі, меркаванні па наступнай тэме. Чаму вось так у нас адбываецца і хто ў гэтым вінаваты? Нашы абыякавасць, бескультур’е альбо безальтэрнатыўнасць, ці можа марудная работа і невынаходлівасць нашых камунальнікаў, дарожнікаў? Запрашаю да дыскусіі не толькі простых чытачоў, але і службоўцаў адпаведных арганізацый.

З павагай,
Алесь РАТКЕВІЧ.

**Сваю думку можна выказаць у каментарах на сайце rh.by пад адпаведным артыкулам ці даслаць на адрас рэдакцыі regionnews@rh.by.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Плаціць за вываз смецця – абавязкова!

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары шматпавярховак абавязкова заключаюць дагаворы на паслугі па вывазе і абясшкоджванні смецця з арганізацыямі жыллёва-камунальнай гаспадаркі.**

Зусім іншая сітуацыя ў сельсаветах, дзе людзі жывуць у прыватных дамах. Менавіта гэтых грамадзян і даводзіцца пераконваць у неабходнасці заключэння дагавора на цэнтралізаваны вываз смецця.

**Жыхары прыватнага сектара абавязаныя заключыць з арганізацыяй ЖКГ дагавор на аказанне паслугі па вывазе і абясшкоджванні цвёрдых камунальных адходаў. Гэта адна з абавязковых паслуг.**

Абавязкі і адказнасць, звязаная з абыходжаннем з камунальнымі адходамі, пазначаныя нават у Канстытуцыі. Паводле артыкула 55, “Ахова прыроднага асяроддзя – абавязак кожнага”.

Таму грамадзяне павінны раздзельна збіраць адходы і выкідваць іх толькі ў адпаведныя месцах! Напрыклад, у кантэйнеры на спецыяльна абсталяваных пляцоўках ці ў спецтранспарт (смеццявоз).

Закон “Аб абыходжанні з адходамі” – асноўны нарматыўны прававы акт, які рэгулюе правілы абыходжання са смеццем. Згодна з ім, **кожны павінен раздзельна збіраць смецце**. Пры гэтым выкідваць у звычайныя кантэйнеры другасную сыравіну, адходы расліннасці і будоўлі забаронена.

Усе камунальныя адходы і ў вёсках, і ў гарадах неабходна збіраць і распараджацца імі так, каб пэўны від смецця пакідаць у санкцыянаваных месцах для захоўвання адпаведных адходаў. **Самім закопваць смецце ці выкідваць у неспецыяльных месцах забаронена.**

### Як плаціць за вываз смецця

Паводле Жыллёвага кодэкса, уласнік дома ці кватэры абавязаны заключыць дагавор на вываз смецця з арганізацыяй, якая яго вывозіць. За вываз аплачваюць паводле нормаў спажывання, якія ўстанаўлівае мясцовая ўлада, а таксама тарыфаў на камунальныя паслугі.

Плату за вываз смецця разлічваюць на кожнага зарэгістраванага. Калі хтосьці жыве не па месцы рэгістрацыі, у ЖКГ неабходна прынесці пацверджанне: даведку з месца вучобы (калі вучацца на дзённым), даведка з ваенкамата (калі праходзяць службу ў арміі), дагавор арэнды (калі арандуюць кватэру), калі ў медыцынскай установе – таксама адпаведную даведку. Калі збіраецеся часова з’ехаць, трэба напісаць заяву, каб налічвалі плацяжы па месцы часовага жылля.

### Пры аплаце паслуг ёсць ільготы:

50% для ўласнікаў жылля, якія маюць інваліднасць 1-й ці 2-й групы, для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

Калі не аплачваць паслугі па вывазе смецця, запазычанасць будуць патрабаваць праз суд, давядзецца даплаціць яшчэ і пеню, а таксама судовыя выдаткі.

За парушэнне заканадаўства аб абыходжанні з адходамі прадугледжаная адміністратыўная і крымінальная адказнасць.

### Як зэканоміць на смецці

Можна часткова кампенсаваць выдаткі на вываз смецця. На прыёмных пунктах “Камунальніка” купляюць другасныя рэсурсы па наяўным разліку.

**Адрасы прыёмных пунктаў:**

**- Радашкавічы, Набярэжная, 1.** Працуе штодзённа з 9.00 да 16.00, акрамя суботы і нядзелі, абед з 13 да 14.

**- Чысць, вуліца Гастэлы, 10.** Працуе штодзённа з 9 да 16, акрамя суботы і нядзелі, абед з 13 да 14.

**- на тэрыторыі “Спецаўтагаспадаркі”, вуліца Вялікасельская, 38В.** Працуе штодзённа ад 8 да 16, акрамя суботы і нядзелі, абед з 13 да 14.

**- на палігоне цвёрдых бытавых адыходаў** (пяць кіламетраў на поўнач ад Маладзечна, на захад ад шашы Маладзечна-Вілейка). Працуе ад 8 да 17, акрамя суботы і нядзелі, абед з 13 да 14.

**Кошты на другасную сыравіну:**

макулатура – 450 рублёў за 1 кілаграм,

шклабой – 400 рублёў за 1 кілаграм,

ПЭТ-бутэлькі – 1500 рублёў за 1 кілаграм,

рызьё – 200 рублёў за 1 кілаграм.

Няцяжка падлічыць, што пры раздзельным зборы смецця можна вярнуць больш за палову выдаткаў на яго вывазЫ.

Адміністрацыя філіяла
УП “Камунальнік”
“Раённае ЖКГ”.

| Курсы валют НБ РБ | 29.08 | 5.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 960,00 | **9 030,00** |
| Еўра | 11 980,00 | **11 900,00** |
| Злоты | 2 816,46 | **2 788,24** |
| Літ | 3 470,11 | **3 445,18** |
| Расійскі рубель | 270,00 | **270,50** |
| Грыўня | 1 103,04 | **1 108,86** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8950/9010 | **9030/9080** |
| Еўра | 11960/12050 | **11890/12000** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.08 | 4.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 105800 | **108500** |
| Сасіскі, 1 кг | 45050 | **45000** |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 70000 | **70000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 23500 | **23500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 23800 | **23800** |
| Селядзец, 1 кг | 22400 | **23500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 89000 | **89000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10000 | **10100** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8000 | **9000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| Алей | 16000 | **16200** |
| Маянэз, 200 г | 5000 | **5200** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 7400 | **7800** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 29800 | **30000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 8500 | **8700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 4500 | **4800** |
| Морква, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5500** |
| Лімоны, 1 кг | 20000 | **20000** |
| Апельсіны, 1 кг | 13000 | **14000** |
| Мандарыны, 1 кг | 20000 | **23000** |
| Памідоры, 1 кг | 5500 | **7500** |
| Агуркі, 1 кг | 8000 | **8500** |
| Перац, 1 кг | 8000 | **12000** |
| Вінаград, 1 кг | 20000 | **19000** |
| Бананы, 1 кг | 10800 | **12000** |
| Яблыкі, 1 кг | 12000 | **7000** |
| Грушы, 1 кг | 12500 | **12000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| Масла, 1 кг | 60000 | **60000** |
| Тварог, 1 кг | 30000 | **30000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Мёд, 1 кг | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ

# Хлопец з парэзаным горлам зайшоў у краму

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра здарэнне, якое адбылося вечарам 2 верасня па вуліцы Будаўнікоў, распавёў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта Юры Багушэвіч.**


Фота primorye24.ru.

Мужчына два разы ўдарыў хлопца нажом.

Маладзён прыйшоў у госці, дзе выпівалі яго знаёмыя. Сярод запрошаных быў 36-гадовы мужчына, з якім у хлопца раней здарыўся канфлікт.

Праз некаторы час малады чалавек вырашыў схадзіць у краму. Па дарозе яго нагнаў крыўдзіцель і ў іх завязалася бойка. Мужчына два разы ўдарыў хлопца нажом. Адзін раз у шыю, а другі – у спіну. Апошні ўдар быў нямоцны, але параніў хлопца.

Пацярпелы дайшоў да “Белмаркета” па вуліцы Будаўнікоў. Там ён папрасіў выклікаць "хуткую дапамогу" і страціў прытомнасць.

Цяпер ён у бальніцы.

Хлопец раней не судзімы, працаваў будаўніком. Затое мужчына, які напаў на яго, судзімы тры разы. На ягоным рахунку крадзеж, рабаванне і гвалт. Ён нідзе не працуе.

Зоя ХРУЦКАЯ.

СЛУЖБА 101

## На пажары загінуў мужчына

**ВІЛЕЙКА. 2 верасня каля 11.30 вілейскім выратавальнікам паведамілі пра пажар па вуліцы Інтэрнацыянальнай.**

Каб яго ліквідаваць, накіравалі тры аўтацыстэрны.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца здарэння, з вокнаў і дзвярэй дома вырываліся клубы дыму.

– Пасля таго, як патушылі пажар, у спальні на канапе знайшлі абгарэлае цела чалавека, – паведаміў інжынер інспекцыі дзяржпажнагляду **Яўген Камароў**. – Загінуў 44-гадовы жыхар Вілейкі.

У доме закурадымленыя памяшканні, абгарэла канапа.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

Аддзел інфармацыі.

## Загарэўся трактар

**ВАЛОЖЫН. Работнікі калгаса “Сакаўшчына-Агра” патэлефанавалі выратавальнікам каля 15.00 31 жніўня.**

Пажар адбыўся на комплексе адкорму буйной рагатай жывёлы. Загарэўся трактар К 701 1991 года выпуску, які належыць калгасу.

Здарылася гэта, калі трактарыст трамбаваў сіласную яму. Трактар загарэўся ў руху. Кіроўца не пацярпеў.

Пра здарэнне расказаў інжынер інспекцыі дзяржпажнагляду Валожынскага РАУС **Ігар Хныкаў**.

Настасся РОЎДА.

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Нецвярозы сеў кіраваць камбайнам

**ВІЛЕЙКА. Пакуль вядзецца ўборка ўраджаю пракуратура Вілейскага раёна ўзмацніла нагляд за выкананнем заканадаўства ў аграпрамысловым комплексе раёна.**

З гэтай нагоды праведзеныя рэйдавыя мерапрыемствы па месцах уборкі і захоўвання збожжавых культур.

У большасці задачы і мэты ўборачнай кампаніі сельгаспрадпрыемствамі раёна выконваюцца. Аднак у некаторых гаспадарках знойдзеныя парушэнні.

### Спынілі камбайн

Супрацоўнікі пракуратуры і аддзела ДАІ Вілейскага РАУС на дарозе ў вёсцы Савіна Вілейскага раёна спынілі камбайн пад кіраваннем механізатара ААТ “Новая Любанія”. Камбайн быў незарэгістраваны і не прадстаўлены для штогадовага дзяржаўнага тэхнічнага агляду.

Падчас разбору стала вядома, што згаданым камбайнам дазволіў кіраваць галоўны інжынер гаспадаркі. У дадатак, механізатара да кіравання камбайнам дапусцілі без праходжання перадрэйсавага медагляду. На момант спынення ён быў нецвярозы.

### Работнікі не ведалі, як карыстацца вогнетушыцелем

Калі супрацоўнікі пракуратуры і Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных здарэннях наведалі збожжасклады і збожжасушылкі ААТ “Новая Вілія”, то на некаторых знайшлі парушэнні заканадаўства аб пажарнай бяспецы – недахоп вогнетушыцеляў. Пры гэтым асобныя работнікі не ведалі, як імі карыстацца.

Не хапала першасных сродкаў вогнетушэння і на збожжаўборачных камбайнах гаспадаркі. Акрамя таго, двое механізатараў гаспадаркі працавалі на камбайнах без памочнікаў.

Пракуратура Вілейскага раёна накіравала кіраўнікам згаданых гаспадарак прадстаўленні, паводле якіх яны абавязаныя ліквідаваць парушэнні. Аддзел ДАІ вілейскага РАУС па даручэнні пракуратуры прыцягнуў вінаватых працаўнікоў ААТ “Новая Любанія” да адміністрацыйнай адказнасці за здзяйсненне парушэнняў бяспекі руху і эксплуатацыі транспарту.

Дар’я ХАДАРОВІЧ, старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна.

ВЫШУК

## Шукаюць расіяніна

**МЯДЗЕЛ. Райаддзел унутраных спраў шукае без вестак прапаўшага грамадзяніна Расіі Міхаіла Андрэевіча Пятрова. Ён нарадзіўся 25 лістапада 1933 года (79 гадоў).**



Міхаіл Пятроў 22 жніўня прыехаў з Расіі на Мядзельшчыну да сваякоў у вёску Вохабні. 24 жніўня з апоўначы да 05.00 сышоў ад іх у невядомым накірунку і яго далейшае месцазнаходжанне не ўстаноўлена.

**Прыкметы**: на выгляд 80 год, рост каля 165 см, сярэдняга целаскладу, твар прамавугольны, смуглы, валасы кароткія, чорныя з сівізной, нос пляскаты, бровы шчацінстыя, вочы блакітныя.

**Асаблівыя прыкметы**: на правай руцэ адсутнічаюць указальны і сярэдні пальцы, няма зубоў, на правай частцы тулава радзімка памерам 3 см, кульгае на правую нагу, на грудзях татуіроўка ў выглядзе малюнка бягучага льва.

**Быў апрануты**: клятчастая каляровая кашуля з перавагай карычневага колеру.

Міхаіл Пятроў злоўжывае спіртнымі напоямі, пакутуе на псіхічнае захворванне, пасля перанесенага інсульту ў абстаноўцы не арыентуецца, анкалагічна хворы, пры сабе нічога не мае.

Сяргей САВІЦКІ, оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Мядзельскага РАУС.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У аварыі загінуў кіроўца

**ВІЛЕЙКА. Здарэнне адбылося 29 жніўня паблізу вёскі Сосенка каля 19.30.**

Аўтамабіль “Аўдзі-80” урэзаўся ў дрэва, кіроўца ад атрыманых цялесных пашкоджанняў загінуў на месцы. Супрацоўнікі Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях з дапамогай спецыяльнага абсталявання дасталі вадзіцеля з машыны.

– Нецвярозы 28-гадовы мясцовы жыхар не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет, наехаўшы на прыдарожнае дрэва, – дапоўніў ва УДАІ упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама. – Загінулы не быў прышпілены рамянём бяспекі.

Аддзел інфармацыі.

СВЯТЫ

# Як зменяцца Ашмяны да "Дажынак"




Фота nimble.ru.

Як пройдуць "Дажынкі" ў Ашмянах, пабачым 15 лістапада.

**АШМЯНЫ. Шэраг аб'ектаў будуюць у Ашмянах да абласных "Дажынак-2013": дзіцячы садок, стадыён, фізкультурна-аздараўленчы комплекс.**

Што яшчэ чакае гараджан, расказала начальнік архітэктуры і будаўніцтва Ашмянскага райвыканкама **Ірына Рамэ**.

– Да "Дажынак" у нас запланавана добраўпарадкаваць у горадзе 11 вуліц. – На Адама Міцкевіча, Піянерскай, Камуністычнай і Краснай ужо цалкам замянілі водаправод, а на вуліцы Міцкевіча праклалі новыя цепласеткі. Завяршаюцца і работы па рэканструкцыі гарадской плошчы.

Практычна завершана добраўпарадкаванне вуліц Пралетарскай, Заходняй і Дружбы. Рамантуецца вуліца Барунская. Там пакладзены ніжні пласт асфальту, засталося зрабіць тратуары і памяняць ліхтары на вуліцы.

– Актыўна ідуць работы на сацыяльных аб'ектах – школах, садках, установах культуры і аховы здароўя, – дадае спадарыня Ірына. – І ўсё ж знакавымі аб'ектамі будуць фізкультурны-аздараўленчы комплекс і стадыён. На стадыёне цяпер усталёўваюць трыбуны. Ужо падрыхтаванае поле, дзе паклалі штучнае пакрыццё. Фізкультурны комплекс будзе двухпавярховы, са шматлікімі заламі для розных відаў спорту.

Шмат што робіцца за сродкі асобных арганізацый. Прыватныя арганізацыі і прадпрыемствы, гаспадары прыватных дамоў, якія размяшчаюцца на цэнтральных вуліцах, павінны самі добраўпарадкаваць свае будынкі і прылеглую да іх тэрыторыю. Супрацоўнікі райвыканкама сочаць за тым, каб усё было прыведзена ў парадак.

– Рыхтуем да адкрыцця і новы дзіцячы садок, ён разлічаны на 190 месцаў, – кажа Ірына Рамэ.

### Рыхтуецца экскурсійны маршрут

Тым часам аддзел культуры працуе над афармленнем дэкарацый уздоўж дарог і рыхтуе экскурсійны маршрут для гасцей горада.

– Шмат запрошаных прыедзе з Астраўца, Смаргоні і Іўя, – гаворыць начальнік аддзела культуры Ашмянскага райвыканкама **Галіна Балінская**. – Плануецца зрабіць экспазіцыю ў краязнаўчым музеі і падрыхтаваць дзве выставы.

Сёлета ў адзін час з "Дажынкамі" адбудзецца Міжнародны эканамічны форум "Паўночны вектар Гродзеншчыны", у межах якога пройдзе міжрэгіянальная выстава-кірмаш.

У гэты ж дзень плануецца адкрыццё фізкультурна-аздараўляльнага комплексу.

– Госці наведаюць і сыраробны завод з новымі тэхналогіямі, і конна-спартыўны цэнтр, – дадае спадарыня Галіна. – Шмат працы яшчэ трэба зрабіць да свята.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Што трэба ведаць, каб прыватызаваць жыллё?

**МАЛАДЗЕЧНА. Па-першае, вам неабходна звярнуцца ў службу субсідзіравання і прыватызацыі жылля, што знаходзіцца ў вашым раёне.**

Там вам дадуць памятку, у якой будуць пазначаныя неабходныя для працэдуры дакументы.

**Пашпарт.** Пашпарты падаюцца ўсімі паўналетнімі членамі сям'і, а таксама асобамі, якія маюць правы карыстання жыллём.

**Пісьмовая згода.** Калі па якіх-небудзь прычынах адсутнічаюць вашы сваякі, то вы мусіце прадставіць іх згоду на прыватызацыю, якую павінен заверыць натарыус.

**Пасведчанні аб нараджэнні.** Гэты пункт датычыцца тых грамадзян, якія прыватызуюць жыллё, дзе прапісаныя непаўналетнія дзеці.

**Дакумент на ільготы.** Калі вы маеце права ільготы.

**Чэкі "Жыллё"** (калі такія ёсць). Важна, што чэкі павінны быць іменнымі і з выпіскай са спецыяльнага (чэкавага) рахунку.

**Заява.** Афармляецца ўжо пасля таго, як неабходныя дакументы будуць на руках. Яе павінны падпісаць усе паўналетнія члены сям'і.

Але тут могуць быць свае падводныя камені. Таму за тлумачэннямі мы звярнуліся да начальніка аддзела субсідзіравання і прыватызацыі **Сяргея Ракіта**.

– Да прыведзенага спісу дакументаў я хачу дадаць выпіску з асабовага рахунка, якую вы можаце ўзяць у ЖРЭУ па месцы пражывання.

**– Колькі часу давядзецца чакаць пасля падачы заявы?**

– Гэта не ад нас адных залежыць. У асноўным затрымка ідзе ад Бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Ужо сёння ёсць заявы, якія чакаюць сваёй чаргі два месяцы.

**– Чаму прыём дакументаў ідзе толькі тры дні на тыдзень?**

– А калі нашым спецыялістам апрацоўваць ужо пададзеныя заявы? Мы працуем на мяжы магчымасцяў. Па нормах, мы можам прымаць да 30 заяў у месяц, а мы прымаем каля 300(!).

**– Ці ёсць катэгорыі жылля, якія нельга прыватызаваць?**

– Мы не прыватызуем кватэры, у якіх ідзе капітальны рамонт. Жыллё, на якое па нейкіх прычынах накладзена забарона. Напрыклад, аддзел адукацыі райвыканкама накладае забарону на прыватызацыю жылля, у якім пражываюць дзеці, што засталіся без бацькоў. Іншы выпадкі прапісаны ў Жыллёвым кодэксе за 2013 год, але ў Маладзечне гадоў пяць, як няма такіх катэгорый жылля. Магу сказаць смела: абмежаванняў у прыватызацыі няма.

**– А хто ў асноўным прыватызуе жыллё?**

– Я падзяліў бы грамадзян на дзве катэгорыі. Першая: тыя людзі, якія добра ведаюць, для чаго прыватызуюць жыллё (прадаюць кватэры, пакідаюць іх у спадчыну). З такімі грамадзянамі праблем няма. Ёсць і другая катэгорыя: тыя, якія "нешта там пачулі" і прыватызуюць жыллё "на ўсякі выпадак", часам без патрэбы. Таму хочацца сказаць: "Грамадзяне! Працэс прыватызацыі – звычайная працэдура, якая існуе ўжо доўгі час. І нічога новага ў ім няма. Не трэба такога ажыятажу!"

**Наталля ТУР.**



# алми
## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136**
**ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28**

| Цена | Скидка | Товар |
|---|---|---|
| 44900 (только в универсаме) | 25% | Котлета рубленая из птицы 1кг РБ. Состав: цыплята, хлеб, лук, приправа к курице, перец черный молотый, специи, масло растительное, вода. |
| 69900 (только в универсаме) | 25% | Рулет куриный Праздничный 1кг РБ. Состав: цыплята, грибы, арахис, соль, перец черный молотый, перец красный молотый. |
| 32000 (только в универсаме) | 25% | Перец маринованный 1кг РБ. Состав: перец свежий, перец черный горошек, масло растительное, соль, сахар, уксус, вода. |
| 34900 (только в универсаме) | 25% | Пирожное Трюфель сливовый 1кг РБ. Состав: мука в/с, смесь для бисквита шоколадного, масло растительное, яйцо, сахар, сода пищевая, кефир, маргарин, бренди, молоко сгущенное вареное, какао, чернослив. |
| 4500 | 20% | Мороженое пломбир Бодрая Корова жир.12% 80г РФ |
| 2900 | 15% | Йогурт с бифидобактериями обезжиренный Оптималь 120г РБ Черника/Клубника-киви |
| 6700 | 20% | Напиток йогуртный Фруктовая корзинка жир.1.7% 300г РФ В ассортименте |
| 10500 | 30% | Блинчики с курицей С пылу-С жару 360г РФ |
| 69900 | 15% | Кумпячок Аппетитный к/в 1кг РБ |
| 33900 | 25% | Скумбрия пряного посола б/г 1кг РБ |
| 7850 | 15% | Рыбные фигурки Дракоша 240г РФ |
| 4500 | 20% | Кетчуп Щедро 300г Украина Томатный/Нежный/Шашлычный |
| 6900 | 20% | Горошек зеленый Овощное меню 410г/ Кукуруза сахарная Овощное меню 420г Украина |
| 7500 | 20% | Фасоль в томатном соусе Овощное меню 410г Украина |
| 11900 | 20% | Корнишоны деликатесные Овощное меню 680г Украина |
| 15500 | 25% | Готовый завтрак Несквик Шоколадные шарики 250г РФ |
| 12950 | 25% | Морс Закрама 1л РБ Черничный/Ягодно-фруктовый/Клюквенный |
| 6300 (только в универсаме) | 20% | Напиток фруктовый ароматизированный Дарида 1.5л РБ Яблоко/Клубника-лимон |
| 2950 | 15% | Нектар детский Сочный фрукт 200мл РБ Мультифрукт/Ананас |
| 6600 | 20% | Напиток сокосодержащий Сочный 0.95л РБ Мультифрукт/Яблоко-виноград |
| 13900 (только в универсаме) | 20% | Чай черный Ти Фо Ту 100пак*1.4г Польша Классический/С лимоном |
| 36500 | 25% | Кофе растворимый Нескафе Голд 95г РФ |
| 13500 (только в универсаме) | 20% | Драже Идеал 200г РБ Кокоски/Трюфельки |
| 11900 | 30% | Вафли 33 Удовольствия 150-195г РБ в ассортименте |
| 13400 | 20% | Пирожное бисквитное Медвежонок Барни с бананово-йогуртной начинкой 150г Украина |
| 2150 | 20% | Печенье Сахарное 100г РБ. Производитель: СП ОАО «Спартак» |
| 7250 | 20% | Карамель Шипучка Микс Рошен 200г Украина |
| 8500 | 20% | Конфеты Пчелка Жу-Жука 250г РФ |
| 11900 | 20% | Чипсы Лейз 150г РФ Сметана-зелень/Краб |
| 22900 (только в универсаме) | 30% | Зубная паста Аквафрэш МультиАктив 200мл Великобритания |
| 9500 (только в универсаме) | 20% | Освежитель воздуха Гель Фрэш Польша В ассортименте |
| 11150 (только в универсаме) | 25% | Прокладки женские гигиенические Ола Дэйли 60шт РФ В ассортименте |
| 52900 | 20% | Стиральный порошок Тайд Автомат 3кг РФ Белые облака/Колор/Для чувствительной и детской кожи |
| 21900 (только в универсаме) | 25% | Кондиционер для белья Ленор Суперконцентрат 1л РФ В ассортименте |
| 6700 | 25% | Бальзам для мытья посуды Сорти 500г РФ Витамин Е/Алоэ Вера |
| 9900 | 25% | Бумага туалетная Зева Плюс 4шт РФ В ассортименте |

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 4 ПО 17 СЕНТЯБРЯ 2013 ГОДА**

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

ПРАВЕРАНА НА САБЕ

# "На англамоўнага ў Маладзечне глядзяць, як на іншапланецяніна"

**МАЛАДЗЕЧНА. Прымаючы Чэмпіянат Еўропы па пляжным валейболе, наш горад выходзіць на новы міжнародны ўзровень. Але ці гатовы ён да яго ў паўсядзённым жыцці? Гэта карэспандэнтка "РГ" і вырашыла праверыць на сабе.**

Якраз за пяць дзён да пачатку спаборніцтваў да мяне прыехаў сябра з Літвы. Студэнт аднаго з віленскіх універсітэтаў Марыюш хоцаў аб'ехаць Заходнюю Беларусь, каб пабачыць здабыткі Вялікага Княства Літоўскага, якія захаваліся ў Беларусі.

Праехаўшы мяжу, ён спыніўся ў Маладзечне на начлег. Разам з ім мы вырашылі прайсціся па горадзе і праверыць на ўласным досведзе, як адчувае сябе іншаземец у нашым рэгіёне.

Марыюш гаворыць па-англійску, па-літоўску і па-польску. Паміж сабой мы часцей размаўляем па-польску, радзей па-англійску.

Ідучы на эксперымент разам з іншаземцам, я таксама выдаю сябе за турыста і раблю выгляд, што не разумею па-руску. За гэты падман у мэтах эксперыменту я адразу хачу папрасіць прабачэння ў тых, каму казала "I don't speak and understand Russian".

### Як мы засяляліся ў гасцініцу

Спачатку ідзем засяляцца ў маладзечанскую гасцініцу.

Вітаемся з жанчынай на рэцэпцыі па-англійску, кажам, што прыехалі з Літвы, і пытаемся, колькі будзе каштаваць нумар на дзве ночы.

– Кавярня? – пытаецца яна. – Вы шукаеце кавярню?

Калі ніхто на рэцэпцыі не валодае замежнымі мовамі, то мы спадзяваліся пабачыць хаця б даведачную інфармацыю пра гасцініцу, раздрукаваную на англійскай мове. Тады мы маглі б дамовіцца, проста тыкаючы пальцамі ў неабходныя месцы на паперы. Але ніякай інфармацыі па-англійску нам не прапанавалі.

Не разумеючы адказу, мы працягваем пытацца пра нумар. Жанчына арыентуецца ў сітуацыі і піша нам на паперцы – 340 000.

Мы разумеем, што размова ідзе пра грошы.

**– Гэта за дзве начы? І на дзве асобы?** – зноў пытаемся па-англійску.

– Рабяты, я вас не разумею... – разгублена адказвае жанчына. Пасля бярэ тэлефон. – Адну хвілінку, пачакайце...

Набраўшы чыйсьці нумар, яна просіць, каб яе суразмоўца патлумачыў па-англійску, што пакой на дваіх у гасцініцы каштуе 340 тысяч рублёў. Пасля дае трубку мне.

Мой суразмоўца, невядомы хлопец, пачынае на добрай англійскай мове тлумачыць кошты. Пасля спагадліва пытаецца, ці разбіраемся мы ўвогуле ў беларускіх грошах. Адказваю, што не вельмі. Хлопец абяцае праз дзве хвілінкі быць у гасцініцы.

Хутка ён ужо на месцы. Адразу пачынае расказваць, колькі і за што нам давядзецца плаціць. Відаць, што распавядае ён гэта не першы раз, бо пастаянна задае ўдакладняючыя пытанні.

У хлопца цудоўная англійская мова, да таго ж відавочна яго шчырае жаданне дапамагчы. Цягам размовы мы разумеем, што жанчына на рэцэпцыі – яго мама.

Карыстаючыся выпадкам, задаём хлопцу тыповыя пытанні турыстаў.

**– Дзе можна ўзяць карту горада?**

– Нідзе. То бок яе можна набыць, але ў кнігарні. Тут недалёка ёсць адна, працуе недзе ад 9 гадзіны раніцы. Цяпер вы карту нідзе не знойдзеце (у гасцініцу мы прыйшлі пасля васьмі гадзін вечара. – **Аўт.**).

**– А дзе грошы можна памяняць?**

– Вось тут, абменнік ёсць побач. Але ён ужо не працуе, трэба чакаць да раніцы. Абменніка, які б працаваў 24 гадзіны, у нас у горадзе няма. Калі вам няма чым заплаціць цяпер, то можаце плаціць, калі будзеце высяляцца.

Разумеючы, што сёння ўвечары нам не шанцуе, мы дзякуем хлопцу за дапамогу і ідзем далей.

– Відаць, што горад не разлічаны на вялікую колькасць турыстаў, – дзеліцца ўражаннямі Марыюш. – Асобнаму чалавеку знойдуць, як дапамагчы, але вось вялікай групе? Варта было зрабіць карты, якія можна было б атрымаць у публічных месцах. Таксама бракуе інфармацыі па-англійску.


Кадр з відэа Аляксандры ПАРАХНІ.

Калі паразумецца на адной мове не атрымліваецца, на дапамогу прыходзяць перапіска і малюнкі. Марыюш спрабуе набыць квіток у Маладзечне.

### Як мы набывалі квіток у міжнароднай касе

У якім месцы, акрамя гасцініцы, можна часцей за ўсё пабачыць турыстаў? Вядома ж, на вакзале. Кіруемся на чыгуначны, дзе ёсць міжнародная каса. Цяпер мы хочам купіць квіткі да Вільні.

У касе працуе сталая жанчына. Пачуўшы незразумелую мову, яна пачынае перапытваць па-руску.

**– I speak only Lithuanian and English,** – кажа Марыюш, паказваючы жэстамі, што нічога не разумее.

Жанчына выхоплівае з яго словаў назву горада – Vilnius. Працягвае расклад руху да Вільні. Зноўку рускамоўны.

Калі і такім чынам не атрымліваецца паразумецца, яна дае Марыюшу паперку і ручку, просіць напісаць, чаго ён хоча.

Марыюш піша: "Vilnius. 25-08-2013".

Касірка піша ў адказ час ад'езду цягнікоў ад Маладзечна і прыбыцця ў Вільню.

**– Колькі гэта будзе каштаваць?** – пытаецца Марыюш. Бачачы, што яго не разумеюць, шукае сінонімы. – **Money? Rubles?**

Жанчына дапісвае кошты квіткоў асобна да кожнага цягніка.

Пасля некалькіх хвілінаў мазгавога штурму мой госць ведае, калі ён можа вярнуцца дадому і колькі гэта каштуе.

– На чыгуначным і аўтобусным вакзале хаця б мінімальная інфармацыя павінна быць па-англійску, – гаворыць Марыюш. – Усе надпісы на кірыліцы, на замежных мовах амаль ніхто на размаўляе. Чалавек, які гаворыць толькі па-англійску, адчувае сябе вельмі кепска.

### Як мы прыцягвалі ўвагу маладзечанцаў

Пасля эксперыментаў мы пайшлі паесці ў адну з маладзечанскіх кавярняў. Але і тут цікавыя выпадкі не скончыліся.

Сваімі размовамі на польскай мове мы прыцягнулі ўвагу хлопцаў за суседнім столікам. Яны пільна ўслухоўваліся ў нашу размову і спачатку прынялі нас за ўкраінцаў.

Праз пару хвілін разумеюць, што мова польская, і ў іх прачынаецца цікавасць да турыстаў. Проста загаварыць з намі яны не адважваюцца. Шукаючы творчых шляхоў: **– Можна ў вас сурвэткі са століка ўзяць?**

Мы перадаём сурвэткі і праз паўхвіліны чуем:

**– У нас соль скончылася, можна вашу?**

Перадаём і соль. Але і гэта не ўсё.

**– У мяне нешта галава разбалелася,** – жаліцца нам хлопец. – **Можа, у вас таблетка будзе?**

Спакойна паесці ў нас не атрымалася.

– Некаторыя глядзяць на турыста як на іншапланецяніна, – кажа Марыюш. – Ім складана зразумець, што чалавек з Захаду можа рабіць у Беларусі, ды яшчэ ў такім невялікім горадзе, як Маладзечна. Да замежных моў у паўсядзённасці ў вас не прывыклі.

Марыюш прызнаўся, што застаўся вельмі задаволены паездкай па Беларусі. Праблемы з мовай можна ўспрымаць як невялічкую прыгоду падчас падарожжа.

– А вось тое, што вельмі пазітыўна ўразіла, – гэта багатая гісторыя Беларусі, а таксама добрыя дарогі, – падкрэсліў госць з Літвы, падарожнічаючы па Беларусі на машыне.

### Прыватныя піцэрыі падрыхтаваліся да візіту турыстаў

Ужо пасля ад'езду госця мы з калегай зазірнулі ў адну з піцэрый Маладзечна і звярнулі ўвагу на тое, што на прылаўку ляжыць меню з англамоўным перакладам.

**– Падрыхтаваліся да Чэмпіянату Еўропы?** – пытаемся.

– Так, падумалі, што раптам хто да нас дойдзе, – адказвае прадавачка.

**– І як, завітваюць іншаземцы?**

– Куды там! Нават у піцэрыю, што бліжэй да цэнтра, ніхто не завітвае. Мусіць, іх кормяць у рэстарацыях, не да нас ім.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

## Замежных спартсменаў здзівілі беларускія грошы і прыгажосць горада

Між іншым, горад выглядае па-рознаму ў залежнасці ад таго, з якой мэтай сюды завітаў турыст.

Калі чалавек хоча пазнаёміцца з гісторыяй і культурай, яму патрэбныя карты, указальнікі, кавярні з нацыянальнай кухняй. Патрабаванні да інфраструктуры ў яго будуць вышэйшыя.

Калі іншаземец прыязджае ў межах пэўнай праграмы, за яго замаўляюць квіткі на цягнік, нумар у гасцініцы, пра яго клапоцяцца.

Спартсмены з розных краін Еўропы падзяліліся з карэспандэнткай "РГ" сваімі ўражаннямі ад Маладзечна.

**Матэуш Лысікоўскі, Польша:**

– Гэта мой першы выезд у Беларусь. Я вельмі мала чуў пра вашу краіну. Ехаць у Беларусь было страшнавата, бо я думаў, што калі ноччу тут выйсці на вуліцу, то і пабіць могуць. Але трэба прызнацца, што тут вельмі спакойна і прыгожа – гэта прыемна здзівіла.

**Йіры Крафэр, Чэхія:**

– Мы дабіраліся да вас 22 гадзіны! Спачатку ехалі з Прагі да Варшавы цягніком, пасля з Варшавы да Мінска, а да Маладзечна – ужо машынай. Умовы ў гасцініцы добрыя, кормяць таксама добра. Складана, калі хочам нешта набыць у краме, бо замежныя мовы тут слаба разумеюць. Мясцовая моладзь часам дапамагае, перакладае на англійскую альбо нямецкую мову.

**Якуб Іхнат, Славакія:**

– Я бачу, што людзі тут іншыя. Адчуваецца, што ў беларусаў іншае мінулае, свая гістарычная памяць, якая адрозніваецца ад нашай. Невялікія складанасці ўзнікалі. Па-першае, мне цяжка арыентавацца ў вашых грашах, у якіх столькі нулёў! Здзіўляе, што няма манет. Па-другое, часта даводзіцца тлумачыць на пальцах, калі нешта хочаш, бо замежнымі мовамі тут валодаюць нямногія.

ПЛЯЖНЫ ВАЛЕЙБОЛ

# Расіяне ўзялі ўсё золата Чэмпіянату Еўропы

## На выхадных фінальныя гульні прайшлі ў Маладзечне




Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Адна з атак у выкананні каманды з Расіі.

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 31 жніўня, прайшлі фінальныя гульні Чэмпіянату Еўропы. Новы для Маладзечна від спорту ў фінале сабраў поўныя трыбуны.**

Спаборнічалі паміж сабой дзяўчаты і хлопцы ва ўзросце да 18-і гадоў.

Месцы сярод дзявочых каманд размеркаваліся наступным чынам: першае месца засталося за расіянкамі **Дар'яй Рудых** і **Надзеяй Макрагузавай**, другое – за немкамі **Сарай Шнайдэр** і **Леані Вельш**. Трэцімі сталі ўкраінкі **Дар'я Удавенка** і **Аліна Дзямідава**.

Пасля перамогі расійскія спартсменкі расказалі, што Беларусь стала для іх шчаслівай краінай: дзяўчаты перамагаюць тут ужо другі раз. Гэтым летам яны выступалі на спаборніцтвах у Бабруйску.

– Вялікі дзякуй гледачам за падтрымку! – разам гавораць дзяўчаты. – Нам яна вельмі дапамагла. Калі немкі пачалі выходзіць наперад, дапамагла тактыка нашага трэнера. А таксама ўпэўненасць у сабе і жаданне перамагчы.

Падчас размовы спартсменкі перадаюць з рук у рукі кацяня: яно стала талісманам дзяўчат на спаборніцтвах. Маленькую котку назвалі Гера.

Напружаным атрымаўся і фінал у хлопцаў: аўстрыйцы і расіяне ішлі вельмі шчыльна. На апошніх хвілінах гульні расійскія спартсмены **Арцём Ярзуткін** і **Алег Стаяноўскі** вырвалі перамогу. Другое месца засталося за аўстрыйцамі **Паўлам Бухегерам** і **Морысам Прыстаўз-Тэлснігам**. Бронзавыя медалі ўзялі немцы **Нікляс Рудольф** і **Давід Сосэнхэймер**.

– Эмоцыі проста шалёныя, б'юць цераз край! – у захапленні расказваюць расійскія хлопцы пасля пераможнай гульні. – Вядома, мы чакалі перамогі, бо па перамогу і ехалі ў Беларусь. Тое, што Расія ўзяла першае месца і ў дзявочым валейболе, не здзівіла. Мы ехалі сюды перамагаць усёй краінай!

І хлопцы, і дзяўчаты-пераможцы не змаглі хутка сысці са стадыёна пасля ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання: іх чакалі ахвотнікі атрымаць аўтографы і сфатаграфавацца з новымі "зоркамі" пляжнага валейбола.

Нагадаем, што ў беларускіх спарсменаў не атрымалася прайсці другі этап спаборніцтваў і выйсці ў фінал.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ

### "Вілія" і "Забудова-2007" згулялі ўнічыю

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА.** Матч 17-га тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "Маладзечна-ДЮСШ-4" правяла 31 жніўня. Маладзечанцы дома выйгралі 2:1 у "Зоркі-РФАЦ-Вікторыя" з Пухавіцкага раёна.

Важны матч для размеркавання месцаў у ніжняй частцы турнірнай табліцы адбыўся 1 верасня. Гулялі каманды нашага рэгіёну: "Вілія" з Вілейкі прымала "Забудову-2007". Матч закончыўся ўнічыю 1:1.

### У лідэрах – "Першы Беларускі"

**ВІЛЕЙКА.** У гульнях чэмпіянату раёна па футболе 30 жніўня "Буддэталі" з мінімальным лікам перамаглі "Стралу" – 1:0. У суботу "Фламетр" разграміў "Любань" (5:0), "Першы Беларускі" выйграў у "Шылавіч" 5:2.

У нядзелю, 1 верасня, "Чырвоныя" лёгка разабраліся са "Стралой" 7:0.

– Па-ранейшаму на першым месцы "Першы Беларускі", – паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футболу **Ігар Шабан**. – Каманда ідзе без страт: пасля сямі матчаў – 21 ачко. "Фламетр" мае 19 ачкоў пасля васьмі гульняў. На трэцім месцы "Буддэталі": каманда правяла сем матчаў і мае ў актыве 18 ачкоў.

### Спартакіяда Камітэта дзяржкантролю прайшла ў "Зубраняці"

**МЯДЗЕЛ.** 31 жніўня і 1 верасня ў НДЦ "Зубраня" прайшла спартакіяда работнікаў Камітэта дзяржаўнага кантролю. Удзел у ёй прынялі каманды камітэтаў дзяржаўнага кантролю абласцей і цэнтральнага апарата.

Выяўлялі лепшых яны ў спаборніцтвах па мініфутболе, плаванні, дартсе, шашках, більярдзе, стральбе, настольным тэнісе, гіравым спорце, лёгкай атлетыцы, перацягванні канату.

У агульнакамандным заліку перамагла каманда Камітэта дзяржкантролю Віцебскай вобласці, на другім і трэцім месцах – калектывы цэнтральнага апарата КДК і Камітэта дзяржкантролю Гомельскай вобласці.

Акрамя спартыўных спаборніцтваў адбыўся конкурс мастацкай самадзейнасці.

### "Слонім" – "Смаргонь" 1:1

**СМАРГОНЬ.** 31 жніўня ФК "Смаргонь" у 17-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе на выездзе гуляў у Слоніме супраць мясцовага клуба. Матч завяршыўся з лікам 1:1. Смаргонцы павялі ў ліку ( на 36-й хвіліне гол забіў Сяргей Крот). Гаспадары адквіталі мяч на 73-й хвіліне.

Каманды заканчвалі матч не ў поўных складах: на 77-й хвіліне за другую жоўтую картку поле пакінуў гулец "Слоніма", на 80-й суддзя выдаліў Рамана Гаркушу са "Смаргоні". Вось як ён ацаніў гульню ў інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by:

– Усё нармальна, сёння была роўная гульня. Мы забілі гол, але не здолелі ўтрымаць перавагу.

**– Не магу не спытаць пра выдаленні...**

– Недарэчна неяк усё атрымалася. Кантакт быў, але я спецыяльна не хацеў ударыць саперніка. Я нават не думаў, што магу атрымаць чырвоную картку – максімум жоўтую.

**Аддзел інфармацыі.**

СПАБОРНІЦТВЫ

# "Цюлені" перамаглі ў тэхніцы воднага турызму

**ВІЛЕЙКА. У Красным Беражку на рацэ Вілія 23-25 жніўня праходзілі 24 адкрытыя спаборніцтвы па тэхніцы воднага турызму.**

У іх удзельнічалі турысты з Маладзечна, усяго 50 чалавек у пяці камандах.

Як адзначыла галоўны суддзя спаборніцтваў **Іна Высоцкая**, у праграме былі двухмесныя байдаркі, 2- і 4-месныя катамараны, а таксама каяк (тып лодкі).

У межах спаборніцтваў былі начныя ралі на байдарках і выратавальныя работы.

Была і забаўляльная частка: перакульванні на каяку і каяк-кросс.

Пераможцамі стала каманда "Цюлені" з капітанам **Антонам Пахутам**. Другое месца заняла каманда завода металаканструкцый на чале з **Уладзімірам Жукоўскім**, а трэцяе – каманда дыстанцыі сігналізацыі і сувязі чыгункі з капітанам **Міхаілам Злотнікавым**.



Фота забяспечана Сяргеем БЯЛКОВЫМ.

Каманда-пераможца "Цюлені".

На роўных з дарослымі ў спаборніцтвах удзельнічаў 13-гадовы школьнік **Павел Корсак**.

– Для нас стала традыцыяй збірацца ў апошнія выхадныя жніўня, – гаворыць Іна Высоцкая. – І звычайна надвор'е нам спрыяе. Спаборніцтвы не маюць цэнтралізаванага фінансавання, таму ўдзельнікі самі аплацілі неабходныя выдаткі. У наступным годзе спаборніцтвы будуць юбілейныя, 25-я. І арганізатары запрашаюць у іх удзельнічаць усіх ахвотных.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КОНКУРС

# Выйграй білет на матч "Смаргоні"!

**Мінулы тур сумеснага конкурсу "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь" зноў аказаўся без пераможцаў.**

Першым свой прагноз даслаў Сяргей са Смаргоні – цяпер ён атрымае падарунак ад "РГ".

Наступны матч "Смаргонь" згуляе дома 7 верасня з клубам СКВІЧ – аўтсайдэрам першынства, які ў 17-ці гульнях набраў толькі шэсць ачкоў.

Ад вас патрабуецца прадказаць лік гульні "Смаргонь" – СКВІЧ і назваць каманду, якая заб'е першай.

Ваш адказ можаце дасылаць да 12 гадзін 7 верасня (субота) праз SMS на нумар 8(044) 566-26-99 ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте", на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook ці праз асабістыя паведамленні карыстальніку anrogach2009 на сайце fc-smorgon.by.

Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты – з тым, каб у выпадку выйгрышу вас можна было адшукаць.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную хатнюю гульню "Смаргоні".

**Аддзел інфармацыі.**

## Камент-эксперт



**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Вецер дасць больш энергіі: ля Занарачы з'явіўся трэці вятрак

Малайцы! Супрацоўнічайце з немцамі, яны мухляваць не будуць. ***Уладзімір.***

### Як японцы выказваюць пачуцці праз посуд

Як зразумець, як да вас ставяцца гаспадары, калі ты першы раз у Японіі? Якое стаўленне да маладзечанцаў паказалі японкі гэтымі піялкамі? ***Кірыл.***

### Расіяне ўзялі ўсё золата Чэмпіяната Еўропы па пляжным валейболе

Калі мы ўжо пачнём паважаць сябе!

Спадары раённыя "ідыёлагі" якое правільнае напісанне назвы горада ?!

Надпіс "Molodechno" "красуецца" не толькі на транспарантах, але і на ўзнагародах. ***Chalavek.***

### Скураны абутак шукайце ў крамах

Мая мама купляе заўсёды беларускі абутак. Ніяк знасіць яго не можа - вельмі трывалы. Кажа, што самой ужо зімнія боцікі надакучылі, але ніяк яны не рвуцца, а таму шкада выкідаць, а новыя купляць пакуль не хочацца, бо гэтыя добрыя. ***Галіна.***

Я купляю беларускі абутак ці польскі. У ім утульна, ды і насіць яго можна не адзін год. Раней купляла на рынку - дзешавей. Але ён то разваліцца, то стразы абарвуцца - недаўгавечны. Потым вырашыла для сябе: лепш аддаць грошы і потым праблемаў не мець, чым мучацца з рынчным. Хаця кожны для сябе выбірае сам. ***Мама.***

**ІНІЦЫЯТЫВА**

# Дыпломны праект сабраў віляйчан на свята

**ВІЛЕЙКА. Сямейны адпачынак "Горад над Вяллёй", які адбыўся 30 жніўня, арганізаваў студэнт Кірыл Чэрнік.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Горад з пяску стварылі маленькія віляйчане пад кіраўніцтвам мастака Эдуарда Мацюшонка.**

Галоўным для яго было зрабіць свята пасапраўднаму сямейным, каб кожны мог знайсці штосьці цікавае для сябе.

Упершыню падчас свята на Вілляніным хутары дзейства пачалося на вадзе. Напачатку вечара рамеснікі прыехалі на пляцоўку на лодках. Потым яны наладзілі выставу сваіх вырабаў – з лазы, тканіны, саломы.

Рыцарскі клуб "Паходня" сабраў гледачоў на турнір. Спачатку ахвотныя назіралі за баямі, а пасля маглі сфатаграфавацца з рыцарамі. Для дзяцей было вялікай радасцю патрымаць сапраўдны меч.

На дзіцячую пляцоўку падвезлі пяску, і там дзеці пад кіраўніцтвам мастака **Эдуарда Мацюшонка** стварылі пясочны горад. Калі працу закончылі, мастак звярнуў увагу:

– Калі мы сюды прыйшлі, перад намі быў толькі пясок. Але мы ўсе разам працавалі і стварылі сапраўдны горад. Яго пабачылі ўсе, хто тут быў, і захочуць зрабіць пясочныя гарады ў сваіх дварах.

На сцэне гледачоў сабрала конкурсная праграма, арганізаваная вілейскім Палацам культуры. Свае творчыя нумары прадэманстравалі многія сем'і раёна ў конкурсе "Ад пакалення да пакалення", а таксама калектывы Палаца культуры і Цэнтра эстэтычнага выхавання.

### "Нідзе не чуў "не"

Кірыл прызнаўся, што арганізаваць такое свята аднаму проста нерэальна. Аднак і ў аддзеле ідэалогіі, і ва ўсіх установах яго ідэю падтрымалі і дапамагалі.

Для таго, каб наладзіць тэатралізацыю на вадзе, неабходны ўдзел выратавальнікаў на вадзе, каб у пясочніцы быў пясок і працаваў батут, паклапаціўся Палац культуры. Тэатралізаваны пачатак выканалі ўдзельнікі гуртка "Вілейскія забаўлянкі" пад кіраўніцтвам **Аляксандры Лапацкай** з дапамогай харэографа **Ірыны Сідарэвіч**. Да падрыхтоўкі спрычыніўся і Цэнтр эстэтычнага выхавання пад кіраўніцтвам **Тацццяны Захарыч**.

– Мае былі толькі ідэя, бачанне свята, – гаворыць Кірыл Чэрнік. – Мы размеркавалі, хто за што адказвае, і ўсе працавалі. І ў выніку дасягнулі ўсіх сваіх мэтаў. Здзівіла тое, што ўсе прыязна паставіліся да задумы. Я ні ад каго не пачуў "не" ці "мы не можам".

**Як жа ў студэнта атрымалася сабраць горад на свята?**

– За тры дні мы пачалі рэкламаваць свята, – распавядае Кірыл Чэрнік. – Апраналі касцюмы розных персанажаў і хадзілі па дзіцячых садках, жылых дварах, проста спынялі бацькоў з дзецьмі на вуліцы. Дарылі фігуркі з шарыкаў – сабачак, кветачкі, мячы, разам фатаграфаваліся і запрашалі на мерапрыемства. Менавіта таму прыйшло так шмат людзей. Сабраць столькі чалавек толькі аб'явамі было б немагчыма.

Кірыл вучыцца ва Універсітэце культуры і мастацтваў на факультэце традыцыйнай культуры на пятым курсе. Праграма "Горад над Вяллёй" стане асноваю яго дыпломнай работы.

– Кіраўнік дыпломнага праекта палічыў, што поспеху мы абавязаныя і тым, што гэта не традыцыйнае каляндарнае свята, а штосьці новае, – дадаў хлопец.

Кірыл Чэрнік – віляйчанін, закончыў СШ №1. Спадзяецца, што яго размяркуюць у родны горад і ён застанецца ў Вілейцы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота на сайце rh.by.**



**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | | 9 | | | 4 | 3 |
| | | | | | | | | 8 |
| | 9 | | 3 | 4 | 8 | 6 | 7 | |
| | 3 | | 9 | | | | | |
| | | | 1 | 5 | 3 | | | |
| | | | | | 4 | | 5 | |
| | 1 | 7 | 8 | 6 | 9 | | 3 | |
| 8 | | | | | | | | |
| 2 | 4 | | | 1 | | 9 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, трылер "**Расамаха: Бессмяротны**" 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6-8 верасня – 16.00
9 верасня – 18.30
11 верасня – 16.00
12 верасня – 16.30
Кошт білета – 40 000/45 000 рублёў.

Фантастыка. баявік "**Элізіум**" (ЗША, 2013, для гледачоў пасля 16 год)
6-9 верасня – 21.00
10 верасня – 19.00
11 верасня – 21.00
12 верасня – 19.00
Кошт білета –35 000 рублёў.

Гістарычныя прыгоды "**Сляды апосталаў**" (Беларусь, 2013, да 14 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6 верасня – 18.30
7-8 верасня – 13.30, 18.30
10 верасня – 21.00
11 верасня – 18.30
12 верасня – 21.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Гістарычныя прыгоды "**Сляды апосталаў**" (Беларусь)
6-8 верасня – 17.00
10 верасня – 19.00
11 верасня – 21.30
12 верасня – 19.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Анімацыя "**Эрнэст і Селястына: Прыгоды мышкі і мядзведзя**" (Францыя)
7-8 верасня – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Драма "**Адзін дзень**" (ЗША)
6-8 верасня – 19.30, 21.30
9 верасня – 21.30
Кошт білета – 35 000.

Трылер "**Сайлент Хіл 2**" (Францыя)
10 верасня – у 21.30
11 верасня – у 19.00
12 верасня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. для даведак:
**8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (6-12 ВЕРАСНЯ)**



**Авен.** Магчымыя канфлікты і разрыў любоўных адносінаў. Вас паспрабуюць вывесці з раўнавагі, захоўвайце спакой. Трымайцеся далей ад людзей, якія вам непрыемныя.



**Цялец.** Вас чакаюць прыбыткі, а таксама прыемныя моманты на працы. Вы можаце нічога не рабіць, але ўсё будзе складвацца надзвычай спрыяльна.



**Блізняты.** Вас чакае поспех на працы, усё будзе складацца як найлепш. Не забывайцеся на асабістае жыццё. У канцы тыдня паразмаўляйце аб вашых адносінах.



**Рак.** Адмаўляйцеся ад заманлівых прапаноў. Праз некаторы час яны вам нашкодзяць. Калі маеце справу з вялікімі грашыма, сем раз падумайце, куды іх патраціць.



**Леў.** Прыйшоў час, калі трэба змяніць свой лад жыцця. Не займайцеся справамі іншых людзей, няхай яны самі вырашаюць свае праблемы. Не давайце парады блізкім людзям. Яны не ўспрымаюць іх належным чынам.



**Дзева.** Вам трэба сабраць усе свае сілы, каб адмовіцца ад заманлівай прапановы. На самой справе яна накіравана супраць вас.



**Шалі.** Калі ўзнікла якая-небудзь складаная сітуацыя, нічога не прадпрымайце. Усё вырашыцца само па сабе. Давярцеся інтуіцыі.



**Скарпіён.** Не абяцайце больш, чым зможаце зрабіць. Калі магчыма, перакладзіце свае абавязкі на некаторы час на чужыя плечы.



**Стралец.** Ваша нерашучасць замаруджвае поспех у справах. Можа здацца, што выхаду ў жыццёвых праблемах няма. На самой справе, вы проста перавялічваеце іх. Адпачніце, усё наладзіцца.



**Казярог.** Грандыёзных вынікаў на рабоце не будзе, хаця ваш энтузіязм будзе большы, чым у іншы час. Не спяшайцеся прымаць рашэнні. Цяпер адпачывайце, сустракайцеся з сябрамі.



**Вадалей.** Цяпер усе Вадалеі змогуць вырашыць усе прафесійныя пытанні. Праца будзе прыносіць асалоду. Надзвычай спрыяльна складуцца адносіны са сваякамі, сябрамі, магчымыя новыя знаёмствы.



**Рыбы.** Адкладзіце на потым любыя рашэнні, якія тычацца вашага асабістага жыцця. Падумайце аб новых шляхах вырашэння праблем.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасялаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +17 | | +8 / +18 | | +8 / +20 | | +10 / +17 | |
| | 742 | ↓ 8 | 744 | ↓ 6 | 748 | ↓ 4 | 748 | ↓ 4 |
| Вільня | +9 / +19 | | +8 / +19 | | +8 / +19 | | +10 / +18 | |
| | 752 | ↓ 6 | 754 | ↓ 4 | 757 | ↓ 2 | 754 | ↖ 4 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.32
Захад 19.48
Даўжыня дня 13.16

Усход 8.52
Захад 20.05
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- Халодны ранак на Наталлю-аўсяніцу (8 верасня) абяцае раннюю і халодную зіму.
- 11 верасня. Іван Галавасек. У гэты дзень не ўжывалі ў страву ўсё тое, што мела круглую форму. Стараліся нічога не сячы і не рэзаць. Хлеб ламалі рукамі. Не рабілі ніякіх спраў на агародзе.

## Чытайце праз тыдзень:

- **85- гадовы юбілей адзначае наш зямляк Аркадзь Кабак. У рэдакцыю звярнуліся родныя юбіляра і запрасілі нас у госці, каб пагутарыць з Аркадзем Уладзіміравічам аб лёсе і жыцці. Падрабязнасці ў наступным нумары.**

### А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* У медыцыне існуе сіндром абязводжвання на танцпляцоўцы.

* Сэр Ісаак Ньютан, які адкрыў закон прыцягнення, таксама прыдумаў дзверы для кошак – адмысловы праход у ніжняй часцы звычайных дзвярэй.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці гатовыя вы да раздзельнага разбору смецця?

**Аляксандр Крэнць, настаўнік гісторыі:**

– Гатовы даўно. Я ўпершыню бачыў, што смецце раздзяляюць, калі быў у Германіі ў 2002 годзе. Пры чым, там з гэтым строга. Думаю, што калі ўвядуць і ў нас штрафы, то гэта паскорыць прывыканне да раздзялення смецця. Што датычыцца мяне, то я заўсёды раздзяляю пластык, шкло і паперу.

**Тамара Кулік, бухгалтар:**

– Я жыву на дзявятым паверсе ў доме, дзе ёсць мусаправод. Таму спецыяльна смецце не раздзяляю. Выкідваю ўсё разам. І яшчэ, я неаднаразова бачыла, што нават з розных кантэйнераў смецце засыпаюць у адну машыну. Навошта тады яго раздзяляць?

**Іван Цыбакоў, пенсіянер:**

– Вядома. І лічу, што гэта правільна. Сам заўсёды раздзяляю смецце. Паперу ўвогуле ніколі не выкідваю. Калі збіраецца шмат газет, заўсёды здаю ў макулатуру. Грошы, вядома, невялікія, але за іх заўсёды куплю латарэйны білет.

**Таццяна Аляксейчык, філолаг:**

– Гэта правільна, што сталі з'яўляцца кантэйнеры для пластыку, паперы. Усё часцей бачу ў горадзе скрыначкі для батарэек. Гэта, мяркую, пойдзе на карысць і людзям, і прыродзе. Толькі павінна прайсці шмат часу, каб людзі звыкліся з такім спосабам збору смецця.

**Максім Карнацкі, відэаператар:**

– Да сарціроўкі смецця стаўлюся станоўча. А што, калі ў двары стаяць кантэйнеры, цяжка раздзяліць?

**Сяргей Лавор, футбаліст:**

– Вядома, так і павінна быць. Але сам пакуль смецце не раздзяляю. Мне прасцей выкінуць усё разам. Калі прымуць які закон, мушу прыслухацца.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 36 (958) 6.09.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 791. Падпісана ў друк у 10.00 5.09.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.